© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# У ВАЕННАЙ ТАНАЦЫІ

Нельга не звярнуць увагу на апошні з'езд заходнегерманскай хрысціянска - дэмакратычнай партыі — CDU. У яе руках 15 год знаходзіцца ўлада над Заходняй Германіяй. Ад яе, гэтай партыі, залежыць унутраная і замежная палітыка. Інакш кажучы, Заходняя Германія па волі іменна гэтай партыі стала найбольш мілітарнай дзяржавай у Еўропе, імкнецца да рэвізіі дагавораў і рэваншу.

Што ж важнага адбылося на апошнім з'ездзе партыі, які быў скліканы ў горадзе Ганавер? Перш за ўсё знайшла поўнае прызнанне палітыка Адэнаўэра і блізкіх яму людзей, як Барцэль, Клісінг, Гутэнберг. Перамагла яшчэ раз найбольш крайняя нямецкая рэакцыя. Адэнаўэра зноў выбралі старшынёй партыі, прытым, цяпер галасавала за яго больш дэлегатаў, чым два гады таму назад, на з'ездзе партыі ў Дартмундзе. (Тады галасавала супраць 70 дэлегатаў, а цяпер — усяго 29). І так, гэты з'езд аднагалосна падтрымаў Адэнаўэра і рэакцыйную палітыку ў Заходняй Германіі.

Эргард, цяперашні канцлер Заходняй Германіі, вопытны палітык, цалкам перайшоў на пазіцыі, якія займаў раней Адэнаўэр. Тым самым перакрэсліў ён рэшткі спадзяванняў некаторых яго прыхільнікаў, якія лічылі на яго больш эластычную замежную палітыку і палітыку аб'яднання Германіі. У сувязі з гэтым міністр замежных спраў Шрэдэр, які на сваю руку пачынаў перагаворы з СССР і сацыялістычнымі дзяржавамі, застаўся адзінокім у сваіх пачынаннях і нікім незаўважаным на з'ездзе. Ніхто не запрасіў яго ані ў прэзідыум з'езда, ані ў першыя, прызначаныя для міністраў рады. Ён прыглушаным голасам апраўдваў сябе, бы той вучань, што не вывучыў урок. Адзінота Шрэдэра, калі так можна сказаць, сведчыць аб тым, што Заходняя Германія парывае з рэшткамі рэалістычнай палітыкі.

«Савецкі Саюз, — гаварыў Клісінг, — не змяніў сваёй палітыкі па германскаму пытанню»... і таму Клісінг, выступаючы ад імя праблемнай групы з'езда, падкрэсліў, што «...група рашуча выступае супраць такой разрадкі напружанасці, якая давяла б да прызнання фактычнага стану».

Такія словы і сцвярджэнні абазначаюць недапушчэнне да непасрэдных перагавораў з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай па германскаму пытанню і, зрэшты, усе так зразумелі гэтыя словы Клісінга. З'езд сцвердзіў, што і далей асновай палітыкі Бона па германскаму пытанню павінна быць нязменнае патрабаванне Заходняй Германіі прызнаць яе прадстаўніком усяго нямецкага народа і недапушчэння да абмежаванняў ва ўзбраенні. Дарэчы, міністр вайны фон Хасель таксама гаворыць тое самае, што раўназначна афіцыяльнай адмове ад польскіх прапаноў у справе спынення гонкі ўзбраення і вывядзення з цэнтральнай Еўропы атамнай зброі. Заходняя Германія, аказваецца, не імкнецца да найменшай нават дыскусіі над справай умацавання міру ў цэнтральнай Еўропе.

Будучыню Заходняй Германіі гэта партыя бачыць у цесным саюзе з Паўночна - атлантычным пактам. Цесны мілітарны саюз з Вашынгтонам і Парыжам Клісінг прызнаў «жыццёвай неабходнасцю» для Заходняй Германіі. «НАТО, — заявіў ён, — павінна расці толькі ў ваенным саюзе і стаць палітычным інструментам каардынацыі намераў арганізацыі».

Зразумела, што ўспомнены з'езд з радасцю прывітаў план утварэння супольных нуклеарных сіл, які Заходняй Германіі дае магчымасць распараджацца (мець) нарэшце атамныя і вадародныя бомбы. Гэты план названы вялікай палітычнай падзеяй.

З вышэй сказанага ясна вынікае, што ў сучасны момант Заходняя Германія з'яўляецца найбольш ваяўнічай дзяржавай у Еўропе.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# ТРЫВАЛЫ ФУНДАМЕНТ

(Працяг са стар. 1)

У 1961—1963 гадах у параўнанні з 1934—1938 гадамі вытворчасць мяса ўзрасла больш чым на 127 працэнтаў, вытворчасць малака — на 45,6 працэнта. Вытворчасць сельскагаспадарчых машын павялічылася ў параўнанні з 1938 годам у 8 разоў. Па даных на канец 1963 года, электрыфікавана 70 працэнтаў сялянскіх гаспадарак і 96 працэнтаў пэгээраў. Узрасла прадукцыйнасць працы. Палітыка партыі і ўраду адкрывае перад сельскай гаспадаркай новыя шырокія перспектывы далейшага развіцця.

Далей у тэзісах гаворыцца аб карэнных зменах у размеркаванні нацыянальнага даходу, у жыллёвым будаўніцтве (у 1950—1963 гадах пабудавана 4.276.000 пакояў), у асвеце, навуцы, ахове здароўя і ў галіне сацыяльнага забеспячэння. Сярэднія і прафесіянальныя школы ў народнай Польшчы закончыла 2.645.000 чалавек, вышэйшыя навучальныя ўстановы — 327 тысяч чалавек.

Першы раздзел тэзісаў заканчваецца словамі: крыніца сілы народнай Польшчы заключаецца ў сацыялізме. IV з'езд ПАРП знойдзе ў выніках 20-годдзя Народнай Польшчы трывалы фундамент, на якім ён пабудуе праграму далейшага развіцця матэрыяльна - тэхнічнай базы сацыялізма ў нашай краіне.

Другі раздзел тэзісаў — дырэктывы аб эканамічным развіцці Польшчы на 1966 — 1970 гады — абмяркуем у наступным нумары.

ШЛЯХАМІ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ

## З СЯМЯЦІЦКАГА Ў БЕЛАСТОК

У рамках нашай экскурсійнай акцыі Беласток адведала 85-асабовая група моладзі з Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Чартаеве (Сямяціцкі павет). Яны пабачылі Фасты, фанерную фабрыку, сам горад, а вечарам былі ў тэатры на п'есе «Кард'ян». (вл)




...у Гайнаўскім павеце ёсць 15 вясковых самаабслуговых спажывецкіх магазінаў. І што цікава, няма ў іх пакражаў, што сведчыць аб сумленнасці вясковых пакупнікаў. Усе крамы памяшчаюцца ў новых будынках, якіх пабудаваў за апошнія тры гады Гайнаўскі ПЗГС аж 94. (вл)




## 10 мая пленум ГП БГКТ

21 сакавіка адбылося супольнае пасяджэнне прэзідыума ГП і экзекутывы партыйнай арганізацыі пры ГП і рэдакцыі «Ніва», а таксама камісій культуры і прапаганды. Былі абмеркаваны наступныя справы: удзел БГКТ у адзначэнні XX гадавіны народнай Польшчы, дзейнасць Беластоцкага павятовага аддзела БГКТ у Міхалове, падрыхтоўка аддзелаў да павятовых аглядаў мастацкіх калектываў, праца лектарскай групы, тэматыка радыёгутарак.

Прэзідыум пастанавіў на 10 мая склікаць пленарнае пасяджэнне ГП. У павестцы пленума будуць стаяць два пункты: як БГКТ уключылася ў адзначэнне дваццатай гадавіны народнай улады, і як выконваюцца пастановы IV з'езда БГКТ.

## У 100 гадавіну смерці К.Каліноўскага

У сувязі з 100 гадавінай з дня смерці Кастуся Каліноўскага ў памяшканні ГП 21 сакавіка адбылася ўрачыстая акадэмія. З дакладамі аб жыцці і дзейнасці Кастуся Каліноўскага выступілі Францішак Берніковіч і паэт Алесь Барскі. Інструктар ГП Вера Юшчук прачытала верш і ўрывак з апавядання, напісаныя Алесем Барскім аб Кастусю Каліноўскім. У мастацкай частцы выступіў драмгурток з вёскі Паўлы (Бельскі павет) з дзвюма пастаноўкамі — «Валодзін гальштук» і «Боты». Дэманстраваўся савецкі кінафільм.

мх.

СПОРТ

## ДРОГАШ „У МІНІЯТУРЫ"

...Гонг! Пачалася чарговая фінальная сустрэча па боксу на першынства Польшчы сярод юнакоў. На рынгу беластачанін Галонзка і Ярэмовіч з Уроцлава. Галонзка паспяхова адбівае атакі агрэсіўнага праціўніка, а затым пераходзіць у атаку і кожную з іх канчае левым або правым серпам. Усё больш выразна вырысоўваецца яго перавага. Балельшчыкі ўстаюць з месц. Такой сустрэчы ўжо даўно не было на люблінскім рынгу. Гэта сапраўдны канцэрт! Беластачанін стаў рэкардсменам і заваяваў узнагароду, прызнаную лепшаму баксёру. Пасля гэтай сустрэчы яго празвалі Дрогашам «у мініятуры».

— Хуткасць, толькі хуткасць — такі мой дэвіз, — так пачаў размову з намі Янка Галонзка. — Я не маю накаўтуючага ўдару, але і не пазволю часта трапляць праціўніку.

— Заінтрыгавала мяне ваша форма. Ніколі яшчэ не бачыў вас у вайсковым мундзіры.

— Я з'яўляюся выхаванкам музычнай школы Падляшскай часці КБВ. Вучуся іграць на саксафоне.

— Якія ў вас спартыўныя намеры на бліжэйшы час?

— У апошні час жыву ў Варшаве на пункце пад-

(Працяг на стар. 5)



Рэд. Л. Тарасевіч (злева) у размове з Янкам Галонзкам.

УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ




13)

У арышце было сабрана больш дваццаці асоб, у тым ліку тры жанчыны. Гледзячы на арыштаваных, было ясна, што арышты рабіліся не прыпадкова, а пры дапамозе добра асвядомленага ў нашай дзейнасці правакатара. Усе арыштаваныя былі актыўнымі дзеячамі «Грамады», але сярод іх было пяць членаў райкома партыі — Антон Расінскі, Аляксандр Дзежка, Марыя Сляўка, Мотыль Левін, Аляксандр Гулінскі — і тры члены райкома камсамола — Захар Мяленец, Васіль Апуневіч і я, а рэшта — пераважна сакратары партыйных або камсамольскіх ячэек. Амаль кожнаму шпікі рабілі праўдзівыя закіды ў камуністычнай дзейнасці. Гэта нас вельмі непакоіла. Правакатар ёсць, але хто ён, ці знаходзіцца між намі?.. Хіба не, бо ці ж арыштоўвалі б свайго прыслужніка? А можа... для маскіроўкі...

16 студзеня па поўдні выклікалі 15 асоб, пагрузілі ў аўтобус і павезлі ў Гродна. 7 ці 8 асоб, у тым ліку мяне і Расінскага, затрымалі ў Бераставіцы. Гэта нам выдалася надта падазроным. Чаму нас, кіраўнікоў раёна, не павезлі ў Гродна, з арыштаваным актывам, а пакінулі тут, з тымі, супраць каго не мелі сур'ёзных абвінавачванняў?

Раніцай 17 студзеня справа часткова выяснілася: Расінскага і мяне пасадзілі ў сані і павезлі са звонам бубянцоў на вакзал, скуль цягніком адправілі ў Беласток, што было для нас яшчэ больш дзіўным.

У Беластоку мы зараз апынуліся ў моцна перапоўненым дэфензіўным арышце. Гадзін 4—5 трымалі нас абодвух разам у маленькім пакойчыку, потым павялі на першы паверх на допыт. Пасля некалькіх уступных пытанняў аб маёй «антыдзяржаўнай» дзейнасці і выяўляючых займаныя мною ў гэтай дзейнасці арганізацыйныя функцыі, шпікі станоўча дамагаліся прызнацца да стаўленых мне абвінавачванняў. Пачуўшы з майго боку адмову, пачалі мяне катаваць. Метады катавання, ужываныя ў беластоцкай дэфензіве, былі ўжо вядомыя па ўсёй Польшчы. У гэтым напрамку канкурыравала з беластоцкай дэфензівай толькі дэфензіва ў Луцку на Заходняй Украіне.

Катавалі нас усю ноч: білі гумовымі палкамі па пятах, па грудзях, прыкрытых мокрай анучкай (каб не было сінякоў), сціскалі пальцы, між якімі былі заложаны алоўкі, цягалі за валасы, лілі ваду ў нос. Абвінавачванні павялічыліся. Абодвум нам дайшло яшчэ членства ў акружным камітэце, Расінскаму — у партыйным, а мне ў камсамольскім. Было для нас справай яснай, што дэфензіва намагаецца стварыць судовую справу з акружных і цэнтральных дзеячоў КПЗБ і КСМЗБ і ўключыць у гэтую справу нас дваіх. Катавалі нас і наступную ноч.

Не дабіўшыся, чаго хацелі, адправілі нас да следчага суддзі, які для фармальнасці спісаў пратакол допыту абвінавачаных з арт. 102 (але допыт быў без катавання) і паслаў у беластоцкую турму.

У турме каля трох месяцаў трымалі нас у адзіночных камерах і ў ізаляцыі ад рэшты палітычных вязняў. Але ў камеры, прызначанай на адну асобу, трымалі тры асобы. Потым перавялі ў агульныя камеры, у якіх змяшчалася па 15—20 асоб.

Сядзелі ў той час у беластоцкай турме такія выдатныя дзеячы КПЗБ, як Вера Харужая, Розенштайн (Скульскі), Арэхва (Маліноўскі), Шайкоўскі, Бабровіч і іншыя.

Палітвязні ў турмах буржуазна - памешчыцкай Польшчы, у тым ліку і ў беластоцкай турме, цяжкімі змаганнямі, шматдзённымі галадоўкамі, пры падтрымцы ў гэтых змаганнях працоўных Польшчы, дабіліся для сябе значных правоў. Яны карысталіся ўласнай грамадскай вопраткай, двухгадзіннай свабоднай прагулкай, атрымлівалі кнігі, газеты, пісьмовыя прылады, мелі права на спатканні без кратаў.

Палітзняволеныя сядзелі ў асобных ад крымінальных вязняў камерах і мелі права арганізавацца ў так званую «камуну». У склад турэмнай «камуны» ўваходзілі ўсе палітычныя вязні: камуністы, беспартыйныя рэвалюцыйныя дзеячы і члены іншых радыкальных партый. У «камуне» існавала простая, усіх абавязваючая жалезная дысцыпліна, без якой немагчыма было б весці барацьбу за ўтрыманне здабытых правоў, на якія турэмныя ўлады стараліся пасягаць ад пачатку санацыйнай улады. І таму выключаліся з «камуны» такія палітвязні, нават камуністы, якія не падпарадкоўваліся ўстаноўленым правілам. Гэта былі рэдкія выпадкі.

Члены кампартыі былі арганізаваны ў партыйную турэмную арганізацыю, на чале якой быў партыйны камітэт, які складаўся з трох асоб. Партыйны камітэт кіраваў выхаваўчай работай сярод членаў «камуны» і яе барацьбой. Ён падтрымліваў



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



# З ТЭАТРУ

Фота са «Спакусы» — камедыі, якая зараз ідзе ў тэатры імя Вянгеркі.

Яна — Зыта Паломская. Ён — Януш Барбурскі. Аб пастаноўцы мы пісалі ў папярэднім нумары «Нівы». (вл)

# ДАРОГА СЛАВЫ

# АНТЫФАШЫСЦКІЯ КАМІТЭТЫ

Успамінае **Рыгор Саевіч,** былы дзеяч КПЗБ, арганізатар і старшыня антыфашысцкага камітэта ў Навасадах, Гайнаўскага павета.

«Ад дзён гітлераўскага нападу прайшло некалькі тыдняў. Быў ужо ліпень 1941 года. Большасць членаў нашай ячэйкі КПЗБ засталася на месцы. Мы сустрэліся, паразмаўлялі і ад таго ўсё пачалося.

У ліпеньскую ноч у клуні аднаго з нашых сяброў у Навасадах сабралася некалькі КПЗБ-оўцаў. З горычу мы гаварылі аб становішчы, але адначасова аб перамозе над гітлераўцамі. Справу паставілі канкрэтна: трэба дзейнічаць і ў першую чаргу нам, камуністам. Якраз тады, у тую ноч мы залажылі пачатак антыфашысцкага камітэта. Мяне выбралі старшынёй. Як прыпамінаю, у склад нашага камітэта ўвайшлі Марк Вашчэнка, Максім Антанюк, Павел Трашчотка, Ян і Павел Яншак, Юрка Васілюк і іншыя. Разам нас было адзінаццаць. Мы вырашылі дзейнічаць у трох напрамках: збіраць зброю, пісаць антыфашысцкія лістоўкі і дапамагаць савецкім таварышам, якія хаваліся ў Белавежскай пушчы. Паколькі ў наваколлі можна было знайсці нямала зброі, мы хутка мелі ўжо добры яе запас. Знайшлася пішучая машына. Мы зрабілі першыя антыфашысцкія лістоўкі.

Белавежская пушча была вельмі добрым месцам схованкі для савецкіх салдат і афіцэраў. Былі тут большыя і меншыя групы, якія моцна адчувалі патрэбу ў нашай дапамозе. Некалькі савецкіх афіцэраў адыгралі вялікую ролю ў арганізацыі антыфашысцкага падполля і партызанскіх груп, як, напрыклад, Іван Іванавіч Крылоў, маёр Ігар Бабайлаў, Васіль Канцэндайла. Гэта яны дапамагалі арганізаваць антыфашысцкія камітэты, якіх рабілася з кожным днём усё больш у Гайнаўскім павеце.

У ліпені 1941 года група савецкіх воінаў пад кіраўніцтвам Івана Крылова з вялікай рызыкай вызваліла з лагера для ваеннапалонных у Гайнаўцы 100 чалавек. Усе яны пайшлі ў пушчу і пазней увайшлі ў склад партызанскіх атрадаў.

Я асабіста і наш антыфашысцкі камітэт хутка звязаўся з Крыловым і яго людзьмі. Мы аказвалі ім дапамогу і нават удзельнічалі ў вызваленні групы савецкіх ваеннапалонных, якіх немцы прывязлі на работу ў вёску Пасталова.



Рыгор Саевіч.

Восенню 1941 года я працаваў у пушчы. Гэта аблягчала сувязь з савецкімі таварышамі, якіх тады было ў пушчы больш пяцісот чалавек, а яшчэ дзвесце хавалася па вёсках у раёне Гайнаўкі. Немцы перавялі мяне працаваць на фабрыку сухой дыстыляцыі драўніны ў Гайнаўку. Гэта дапамагло навязаць кантакт з антыфашыстамі ў горадзе.

Ужо на пачатку 1942 года савецкія партызанскія групы з пушчы правялі некалькі дыверсійных выпадаў. У сакавіку на чыгунцы Гайнаўка — Нараўка раскруцілі рэльсы і пусцілі такім чынам пад адкос вайсковы транспарт. У пушчы спалілі некалькі аўтамашын з немцамі. Часта атакоўвалі і псавалі лясную вузкакалейку. І мы, члены антыфашысцкіх камітэтаў, удзельнічалі ў многіх дыверсіях».

Навасады і Дубіны — гэта суседнія вёскі на ўскраіне Белавежскай пушчы. І тады, калі Саевіч з сябрамі арганізоўваюць антыфашысцкі камітэт у Навасадах, пачынаюць дзейнічаць КПЗБ-оўцы ў Дубінах.

(Працяг у наступным нумары)

А. АМІЛЬЯНОВІЧ



Смерть немецким оккупантам!

Гайновский рабочий

Орган Гайновского подпольного РК КП(б) Белоруссии, Брестской области

К трудящимся Гайновского района

**«Гайнаўскі рабочы» — падпольная антыфашысцкая газета, якая друкавалася ў Гайнаўцы і якую распаўсюджвалі члены антыфашысцкага падполля.**

СПАДЧЫНА

# ВАЛЯНЦІН ВАНЬКОВІЧ



У мінулым беларускай культуры, асабліва мастацтва, віднае месца займаюць выпускнікі Віленскай школы мастацтва (1795—1803), якая ад 1803 года была перайменавана ў факультэт жывапісу, скульптуры і гравюры Віленскага універсітэта і праіснавала да 1832 года.

На працягу 37-гадовага існавання гэтай выдатнай вышэйшай навучальнай установы ў ёй працавалі выкладчыкамі шэраг вядомых мастакоў - педагогаў, такіх, напрыклад, як Францішак Смуглевіч і Ян Рустэм. Спачатку пад мастацкім кіраўніцтвам Ф. Смуглевіча, а потым Я. Рустэма тут дасканалілі свае таленты юнакі пераважна з Беларусі і Літвы. Атмасфера дэмакратызму, якая панавала ў гэтай навучальнай установе, спрыяла значнаму наплыву ў яе класы прадстаўнікоў здольнай моладзі з асяроддзя збяднелай беларускай шляхты, дробных гандляроў, а нават рамеснікаў. Часы росквіту навучальнай установы прыпадаюць на перыяд 1807—1832 гадоў, калі яе ўзначальваў Ян Рустэм. Так, напрыклад, у 1820 годзе навучэнцы арганізавалі выстаўку сваіх работ у Вільні. На выстаўцы было 136 карцін, эскізаў, гравюр. Мастацкая вышэйшая навучальная ўстанова карысталася ў моладзі вялікай папулярнасцю. Даволі прыпомніць, што ў 1821 годзе яна налічвала ў сваіх класах 45 жывапісцаў і 16 скульптараў. У ліку іх знаходзіўся і Валянцін Ванькові́ч — адзін з яе лепшых вучняў.

Валянцін Ванькові́ч нарадзіўся ў 1799 годзе ў вёсцы Калужыцы, Ігуменскага павета, Мінскай губерні, у сям'і беларускага шляхціча. Вучыўся ён спачатку ў Полацку, а затым паступіў на факультэт жывапісу Віленскага універсітэта. Тут ён выяўляе свае незвычайныя здольнасці і працавітасць, што ставіць яго ў лік найлепшых вучняў. Пасля заканчэння факультэта ў 1824 годзе Ваньковіч быў накіраваны ў Пецярбургскую акадэмію мастацтва. Там у 1825 годзе за свой малюнак ён здабывае срэбную медаль, а ў 1827 годзе за працу «Подзвіг маладога кіеўляніна» мастак атрымоўвае залатую медаль.

У час пабыту ў Пецярбургу Ваньковіч блізка сышоўся з прадстаўнікамі перадавой дэмакратычнай інтэлігенцыі. У выніку сяброўства з Міцкевічам і Пушкіным ён малюе кампазіцыйны «Партрэт Міцкевіча на скале Аю-Дага» (на здымку). Нягледзячы на выдатныя здольнасці і немалую ўжо славу, Ваньковіч не атрымаў у «паўночнай сталіцы» — Пецярбургу сталага месца працы і ў 1831 годзе ён вяртаецца ў сваю родную вёску Калужыцы, а неўзабаве пасяляецца ў вёсцы Сляпянка пад Мінскам і тут займаецца жывапісам. Хутка яго мастацкая майстэрня становіцца цэнтрам мастацкага руху Мінска.

Слава аб выдатным жывапісцу хутка пашыраецца не толькі на беларускіх землях, але і далёка па-за яе межы. Неўзабаве адна з яго карцін «Святая мадонна» была набыта парыжскім мастацкім музеем Луўр і выстаўлена на пуб-

(Працяг на стар 4)

сувязь з «воляй», атрымліваў адтуль дырэктывы і партыйную літаратуру. Прадстаўніком «камуны» ў адносінах з уладамі быў вызначаны партыйным камітэтам стараста, які ўзначальваў турэмны камітэт у складзе трох ці пяці асоб, выбраных усімі членамі «камуны».

Кожны дзень жыцця «камуны» быў строга арганізаваны паводле ўстаноўленых правілаў і плану дзеяння. Увесь час між снеданнем і абедам быў прысвечаны вучобе. Вывучаліся агульнаадукацыйныя прадметы, палітычная эканомія і тэорыя марксізма - ленінізма. Час пасля вячэры прысвячаўся на сходы, палітінфармацыі, рэфераты, дыскусію і ўласныя заняткі. Гэта ўсё адбывалася, вядома, у «нармальны і спакойны» час, калі не вялася ў той ці іншай форме барацьба супраць атакі турэмных уладаў на крывава здабытыя правы палітвязняў. Хто прыходзіў у турму без адукацыі або непісьменны (а бывалі і такія выпадкі), пасля адбыцця прысуду ў такіх абставінах выходзіў з турмы са здабытай адукацыяй, палітычнай свядомасцю і адпаведна падрыхтаваны да далейшай актыўнейшай дзейнасці ў камуністычным руху.

Прага да ведаў у мяне была такая вялікая, што як толькі апынуўся ў турме, я проста накінуўся на вучобу. Мне хацелася прымаць удзел ва ўсіх групах навучання. Але адукацыяй нас, асабліва маладых, кіравалі адпаведныя людзі — педагогі. Я не наракаў на збытак часу, а нават адчуваў часта недахоп яго. Апрача рэгулярнай вучобы я многа чытаў, хоць на чытанне літаратуры не было шмат часу.

Расінскага і мяне аднак не далучылі да беластоцкага працэсу, а перадалі разам са справамі з нашага, Вяліка-Берастаўіцкага раёна ў гродзенскую пракуратуру. У нашай справе было 15 чалавек. 10 чалавек чакала ў турме да суда аж два гады. 5 асоб у год пасля арышту былі звольнены.

У кастрычніку ці лістападзе 1928 года мы атрымалі акт абвінавачвання, а ў снежні Расінскага і мяне перавезлі ў гродзенскую турму, бо на 8 студзеня 1929 года быў вызначаны судовы разгляд.

З таго, што ўсе абвінавачванні, якія высоўваў супроць усіх нас пятнаццаці пракурор, былі трапнымі і што ніхто з абвінавачаных не злажыў на нікога паказанняў, для нас поўнасцю было ясна, што паліцыя мела правакатара, які падаў ёй факты аб нашай камуністычнай ці камсамольскай дзейнасці і што правакатарам з'яўляецца асоба, якая знаходзілася пры раённым кіраўніцтве. Нашы падазрэнні, што правакатарам з'яўляецца Марыя Сяляўка, пацвердзіліся, калі пасля атрымання акта абвінавачвання нас дапусцілі да азнаямлення з судовымі актамі справы. Мы знайшлі там паказанні Марыі Сяляўкі на ўсіх амаль абвінавачаных аб камуністычнай дзейнасці і пісьмо яе да пракурора, у якім яна просіць, каб не выклікаць яе сведкай у суд, бо ўжо ад часу звальнення з арышту байкатуюць яе не толькі знаёмыя, але і сваякі.

У пісьме яна пагражала, што калі змусяць яе стаць перад судом, дык тады яна адмовіцца ад сваіх паказанняў. Мы былі вельмі здзіўлены, што такі дакумент пракурор далучыў да судовых актаў. Пісьмо гэтае мы перапісалі і праз партыйны турэмны камітэт перадалі арганізацыі «на волю».

# НЕ СВЕЦІМ ВАЧЫМА



У «Доме хлопа» ў Варшаве адбылася нядаўна ўрачыстасць ацэнкі І этапу конкурсу «Вёска бліжэй да тэатра». На ўрачыстасць быў запрошаны дырэктар беластоцкага аддзела «Грамады», перадавога ў краіне. (На 260 тысяч асоб, перавезеных аддзеламі «Грамады» ва ўсёй краіне ў 1963 годзе з вёсак у тэатры, 40 тысяч належыць нашай «Грамадзе»). Міністр Культуры асабліва падкрэсліў заслугі беластоцкага аддзела ў арганізаванні турыстычна - краязнаўчых экскурсій з вёсак. Прадстаўнікі Беластока, Познані, Лодзі, Варшавы атрымалі ўзнагароды Міністра Культуры.

На здымку: дырэктар нашай «Грамады» **Лешэк Каралеўскі** атрымлівае ўзнагароду з рук дыр. Дэпартамента Міністэрства Культуры **Крыстыны Грамковай.**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

